www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 8 (4157)**

27 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СКАЗАНА!**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:



*– Глядзіш на некаторых нашых багацелькіх (балазе алігархаў у краіне няма): яны больш адпачываюць у год, чым працуюць. А паглядзіш, што працоўныя маюць у гэтага багатага чалавека, – гэта 350 долараў. Дык як жа ты можаш адпачываць на Сейшэлах або Канарскіх астравах, а рабочым не плаціць?!*

(Падчас размовы 26 студзеня з навуковымі работнікамі пасля цырымоніі ўручэння дыпломаў доктара навук і атэстатаў прафесара ў Мінску.)

**ВІНШУЕМ!**

## Святлана АКРУЖНАЯ: «Кінулася б зноў, як на плаху!..»

*Учора сваё 70-годдзе адсвяткавала народная артыстка Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», уладальніца ордэна Францыска Скарыны і прыза Беларускага саюза тэатральных дзеячаў «Крышталёвая Паўлінка» Святлана Акружная.*

Святлана Арцёмаўна прымала віншаванні на сцэне Коласаўскага тэатра ў Віцебску.

Бацькі хацелі, каб яна стала доктарам. А яна марыла пра сцэну.

*“Калі б я ведала, якая барацьба мяне чакае, ці выбрала б зноў сваю прафесію? Так!* – гаворыць актрыса. – *Бо гэта маё прызванне, прызначэнне на гэтай зямлі. Кінулася б зноў, як на плаху, не баючыся ўзлётаў, падзенняў, катастроф, раненняў, зайздрасці і ўдараў.*

*Што важней у маім жыцці – работа, каханне, дзеці? Усё. Бо гэта і ёсць маё жыццё. І што тут казаць: трэба самааддана служыць, адчуваць, любіць. Калі трэба быць жорсткай – таксама магу. Не магу даравацъ здрады. Але калі чалавек здольны зразумець сваю памылку, пакаяцца – толькі шчыра, ад усяго сэрца, – я заўсёды дарую.*

*Сабе і ўсім жадаю, каб хапіла часу і сіл апраўдаць сваё прызначэнне на гэтай зямлі! Не злосцю і зайздрасцю, а любоўю і міласэрнасцю”.*

Віншуем, Святлана Арцёмаўна!

**Аліна ВЕТРАВА.**



**ВІЗІТ**

## Прэм’ер-міністр Сербіі Аляксандр Вучыч з двухдзённым візітам у Мінску

У яго праграме – сустрэчы з А.Лукашэнкам, А.Кабяковым, У.Андрэйчанкам, М.Мясніковічам, наведванне такіх прадпрыемстваў, як МАЗ, МТЗ, храма Усіх Святых, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і іншых.

**ПАЗІЦЫЯ**

## Літоўцы не згодныя...

Як вядома, на мінулым тыдні эксперты МАГАТЭ заявілі, што Беларусь улічыла ўсе пагрозы і прымае адпаведныя меры па іх недапушчэнні на Астравецкай АЭС, якая будуецца шпаркімі тэмпамі.

У той жа час міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус лічыць, што міжнародныя эксперты правялі праверку на Астравецкай АЭС не ў поўным аб’ёме, іх інфармацыя селектыўная.

**СТАТЫСТЫКА**

## Праграмісты – 3502,8 рубля ў месяц, сацыяльныя работнікі – 435,3 рубля

Менавіта столькі зарабілі за снежань прадстаўнікі гэтых дзвюх катэгорый. Бачыце, якая каласальная розніца ў іх даходах! А праўладныя прапагандысты ўвесь час талдычаць пра нейкія сярэднія 500 долараў. У тых жа сацыяльных работнікаў заробак ледзь дасягае 220 долараў.

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## Василий ЖАРКО, заместитель премьер-министра Беларуси: «На должность министра здравоохранения правительством предложены четыре человека»

*Скоро месяц, как кресло министра здравоохранения вакантно. Почему так долго глава государства не назначает нового руководителя ведомства? Предлагал ли кого-либо на этот пост бывший руководитель Минздрава, а теперь вице-премьер страны Василий Жарко? Эти вопросы мы адресовали экс-министру.*

**– Василий Иванович, вы возглавляли медицинское ведомство более 10 лет, наверное, хотелось бы оставить министерство человеку надежному, в профессиональных качествах которого не сомневаетесь? С вами советовались, кого назначить министром здравоохранения?**

– Свои предложения я внес. Но озвучивать их, конечно, не могу по этическим соображениям.

**– Как думаете, ваше мнение учтут? Как вообще происходят назначения министров?**

– Правительство вносит несколько кандидатур на должность министра, и их рассматривает глава государства. Последнее слово за президентом. Что касается министра здравоохранения, то правительством предложены четыре человека. Все они люди известные, работают в системе здравоохранения, их знают не только врачи, но и журналисты и, думаю, обычные люди. Любой их них может возглавить министерство.

**– Почему президент так долго думает? Медики предполагали, что итоговую коллегию Минздрава 25 января будет проводить новый министр, но этого не произошло…**

– Министерство здравоохранения, на мой взгляд, одно из самых серьезных и сложных ведомств страны. Медицина – та отрасль, которая касается каждого: от новорожденного до старика. И любое неправильное решение коснется всех. Ошибок тут делать нельзя. На такую должность не назначается человек, которого через год надо будет отправлять в отставку. Человек должен прийти и работать. Мы ему, конечно, поможем… К слову, коллектив Министерства здравоохранения – это профессионалы, там каждый на своем месте.

**– На ваш взгляд, министр здравоохранения должен быть больше практиком или организатором здравоохранения, менеджером?**

– И то, и другое. Он должен уметь организовать работу, знать систему, городское здравоохранение, республиканское. Знать, понимать нюансы амбулаторного звена. Не пройдя практику руководителя, не имея таких навыков, тяжело стать руководителем высокого уровня.

**– Василий Иванович, а вы своим новым назначением довольны?**

– Я солдат, сказали – выполнил.

Я привык работать много, работать ответственно, с полной нагрузкой, не спустя рукава. Но, конечно, работы стало больше. Курирую не одно Министерство здравоохранения, на меня президент возложил такие сферы, как медицина, образование, культура, спорт. Подменять министров, конечно, я не буду, но их координировать, помогать в работе – да.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**АГУЛЬНЫ ПЛАН**

## Маскоўскі паліттэхнолаг у клубе Святланы Алексіевіч

Учора ў інтэлектуальным клубе Святланы Алексіевіч адбылося другое пасяджэнне. На гэты раз быў запрошаны **Станіслаў Бялкоўскі,** маскоўскі паліттэхнолаг і публіцыст, крытык Крамля і курсу Пуціна, аўтар некалькіх кніг аб расійскім прэзідэнце. Падчас Крымскага крызісу заявіў пра намер прасіць украінскае грамадзянства. У 2014 годзе быў удзельнікам кангрэса «Украіна–Расія: дыялог», арганізаванага ў Кіеве Міхаілам Хадаркоўскім.

На пасяджэнні інтэлектуальнага клуба ў Мінску Бялкоўскі выступіў з дакладам «Чацвёртая сусветная вайна. Апошні выхад для посткаланіяльнага свету».

**Алена МАЛОЧКА.**

**СУД**

## За смерць шасці чалавек – па чатыры гады «хіміі»

*Учора Барысаўскі раённы суд вынес прысуд па справе аб смерці шасці барысаўчан у выніку атручэння газам.*

Вінаватымі прызналі слесараў-газавікоў – 36-гадовага **Аляксея Лукаша** і 45-гадовага **Аляксандра Чысцякова**. Кожнага асудзілі на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах пасялення (так званай “хіміі”).

Таксама суд часткова задаволіў фінансавыя іскі чатырох пацярпелых да «Мінскаблгазу».

Нагадаем: здарэнне адбылося напрыканцы студзеня 2016 года. Ад уцечкі газу ў шматкватэрным доме ў Барысаве загінулі шэсць жыхароў дзвюх кватэр.

**СКАНДАЛ**

## Затрыманы бізнесмен Аляксандр Кныровіч

*Інфармацыю пра затрыманне аднаго з самых вядомых прадпрымальнікаў Беларусі “Народнай Волі” пацвердзілі ягоныя блізкія.*

Як высветлілася, Кныровіча выклікалі на допыт у якасці сведкі і затрымалі. Пакуль на 72 гадзіны.

Што менавіта інкрымінуецца бізнесмену, пакуль таксама не вядома. Афіцыйнай інфармацыі на гэты конт не было. Паводле неафіцыйнай – хабар чыноўніку.

Варта адзначыць, што Аляксандр Кныровіч – адна з самых заўважных асоб у беларускім бізнесе. Ён адзін з нямногіх бізнесменаў, хто вядзе свой блог, а таксама рэгулярна выступае ў сродках масавай інфармацыі з крытыкай эканамічнай сітуацыі ў Беларусі.

Дарэчы, вопыт зносін з праваахоўнымі органамі у Аляксандра Кныровіча ўжо быў.

*“Вялікі поспех – не заўсёды шчасце,* – распавядаў ён у інтэрв’ю парталу probusiness.by. – *Ведаеце, калі ў вас у адзін год абарот 30 тысяч долараў, у другі – 700 тысяч, у трэці – 2 мільёны, у чацвёрты – 7. А далей 15, 24, 35 млн – у вас канкрэтна «зносіць дах». Вам здаецца, што так будзе працягвацца вечна, што год за годам усё будзе расці-расці, і вы будзеце і далей знаходзіцца ў такой ролі. Я быў у такой ролі. У 2008 годзе гэта скончылася праверкай ДФР, крымінальнай справай, падпіскай аб нявыездзе. І я вельмі добра памятаю момант: калі мы разлічыліся з дзяржавай, я атрымаў вялікую прыгожую паперу, што да мяне больш няма прэтэнзій. Першым жа рэйсам я паляцеў на Міжземнае мора на любімы курорт. Гэта быў верасень. Вы ведаеце, у верасні павінен быць аксамітны сезон. А там холадна, +12, я сяджу ў рэстаране і... плачу. Абсалютна шчыра: я сядзеў і ліў слёзы на італьянскую макарону і ў свой келіх шампанскага. Таму што ўяўляў, як я мог бы 7 гадоў гладзіць шконку. І ў гэты момант мая мара была вельмі простая: знаходзіцца побач са сваімі блізкімі, мець магчымасць проста працаваць, незалежна ад колькасці грошай, якія пры гэтым атрымліваюцца...»*




**Вера ВІР.**

**МЫСЛИ ВСЛУХ**



## Сергей НЕРОВНЫЙ

## Не скрещивайте бюрократический капитализм с имитационной демократией

При умелом руководстве 20 лет вполне хватило бы нам, белорусам, чтобы преодолеть любой кризис и набрать динамику в экономическом развитии. Столько лет понадобилось побежденной Западной Германии, чтобы стать первой экономикой в Европе. А посмотрите на сегодняшние Польшу, Чехию, страны Балтии! Они покинули «социалистический концлагерь» и давно ни о чем не жалеют. Они меняют правителей, и у них непрерывно растет уровень жизни. Мы правителя не меняем, и уровень жизни большинства людей падает. Особенно в последнее время.

Поделюсь еще одной мыслью: в любом обществе в умах всегда идет «гражданская война». В любой стране. Люди думают по-разному, поддерживают разные идеи, имеют своих кумиров. Чтобы «гражданская война» не превращалась в горячую, есть только два пути: социализм – это когда инакомыслие подавляется силой и устанавливается полицейский «порядок», и демократия – когда в условиях политической конкуренции на честных выборах происходит смена элит. Конечно, демократия – это еще и культура, и она не появляется в одночасье.

Социализм и демократия – антагонисты. Социализм рушится, едва хлебнув свободы, присущей демократии. Последняя не может жить без настоящих выборов, рыночной экономики, без подлинного местного самоуправления.

Социализм в большевистском понимании и коммунизм – мертворожденные формации, и практика строительства подобных систем это ясно показала. Но и попытка скрестить бюрократический капитализм с имитационной демократией не приведет нас к успеху.

*г.Кричев.*

